


# БЕЛАРУСКІ ГОЛАС

Established in 1949.

BYELORUSSIAN VOICE

LA VOIX BIELORUSIENNE

Нр. 360 Сакавік 1991 | TORONTO, ONT. FEBRUARY—MARCH 1991 | Vol. 42/40 № 360

*25 Сакавіка 1918*

# 70-ыя УГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

*25 Сакавіка* **1991**

## УВЕСЬЦІ ВАЕННЫ СТАН — ЗЬЛІКВІДАВАЦЬ УСЕ РАСПУБЛІКІ

Правадыр навастворанага пры дапамозе Кампартыі Саюзу падшываючагася пад імя нябошчыка Сахарава — Варонін, выступіў з прапановай: стварэньня Камітэтаў Нацыянальнага Выратаваньня /ўжо створаныя ў Балтыйскіх Распубліках/ Абвесьціць Ваенны Стан /ўжо ўрачаісьняецца праз вайсковыя патрулі на вуліцах гарадоў ўва ўсёй імпэрыі/ зьліквідаваць усе Распублікі і Аўтаномныя Акругі.




## САКАВІК

### БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДЗЕНЬ У КАНАДЗЕ

Праклямацыя Прам'ера Антарыя — Боб Рэя




PROCLAMATION
OF
BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

WHEREAS the Province of Ontario and Canada have developed and grown through the courage, commitment and skills of people of diverse nationalities who have come to this land in search of freedom and opportunity; and

WHEREAS we are especially grateful for the many positive contributions that our citizens of Byelorussian origin have continued to make to our province and country; and

WHEREAS a free and independent Byelorussian Democratic Republic was established 73 years ago on March 25, 1918; and

WHEREAS the observance of the Anniversary fosters within us a deeper appreciation of liberty and democratic ideals;

THEREFORE on behalf of the Government of Ontario, we are pleased to recognize March 25, 1991 as Byelorussian Independence Day and to commend its observance to the people of our province.

March 25, 1991



The Hon. Bob Rae
Premier of Ontario

## ЗАЦЯГВАЮЦЬ ПЯТЛЮ

Новым знарадзьдзем здушэньня ачнуўшаяся было ў Сав. Імпэрыі — дэмакратыі, створаны рэакцыйнымі коламі «Камітэт Нацыянальнага Ратаваньня», Маскоўскі Лідар Камітэту, Уладзімер Варонін асьведчыў, што мусяць быць забароненыя зноў усе палітычныя партыі, вольная прэса і самая «Прэзыдэнтура», калі гэты Камітэт займее ўладу.

Вядомы чырвоны фашыст — латыш-палкоўнік — Віктар Алксінс — Лідар вайсковай фашыстоўскай групы «Саюз», зьвярнуўся да Гарбачова аб ахвіцыяльнае абвешчаньне Ваеннага стану ў Сав. Саюзе, або адыйсьці з Прэзыдэнства.

### ПАД САХАРАЎСКІМ ІМЕМ

У СССР створаны «Сахараўскі Саюз Дэмакратычных Сіл» /падобна пры дапамозе Кампартыі/, прадстаўнік якога нехта Варонін асьведчыў, што Саюз дамагаецца увесьці Ваенны стан і ліквідаваць усе Распублікі і аўтаноміі. Для кіраваньня развальваючайся Імпэрыі паклікаць Камітэт Нацыянальнага Ратунку.

## ПІСЬМЕНЬНІКІ І НАЎКОЎЦЫ СЬЦЬВЯРДЖАЮЦЬ: «ПЕРАСТРОЙКА» ПАХАВАНАЯ

У «Маскоўскіх Ведамасьцях» зьявіўся яшчэ ў канцы сьнежаня Адкрыты Ліст, падпісаны Расейскімі і Беларускімі Пісьменьнікамі і Наўкоўцамі, якія сьцьвярджаюць, што працэс Мірных перамен ў СССР закончыўся і асьцярагаюць перад пагрозай Дыктатуры, указваючы, што Гарбачоўскай зграя не дапусьціла да пераданьня на ўласнасьць сялянам зямлі, да адпалітычаньня, адпартыйненьня Ўрадавых Установаў, Войска і КГБ і да ўвядзеньня Рынковай эканомікі. Ад Беларусаў падпісалі Адкрыты Ліст — пісьменьнік Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч.



Most Rev. Metropolitan Iziaslav, Primate
Byelorussian Autocephalous Orthodox Church
St. Cyril of Turov Cathedral
401-403 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217

No.: 90/90/31 Date 16 Сьнежня, 1990 г.

Ваша Сьвятасьць Патрыярх Мсьціслаў I
Высокапрэасьвяшчэнныя Архіепіскапы
Прэасьвяшчэнныя Епіскапы
Пачэснае Сьвяшчэнства, Дыяканства і Манаства
Паважаныя Госьці
Дарагія Браты і Сёстры ў Хрысьце:

Сягоньня мы сабраліся тут, каб ушанаваць і выразіць нашае прызнаньне Патрыярху Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыку Мсьціславу I, якога Ўсеўкраінскі Сабор сёлета ў Кіеве ўдастоіў гэтым найвышэйшым духоўным санам.

Ад імя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і ўсяго Беларускага Народу шчыра вітаю Вас, Дарагі Уладыка, як першага Патрыярха ў роднай Украіне і ў Дыяспары.

З ласкі Божае, Вы сталі Патрыярхам Украінскай Праваслаўнай Царквы, каб вывесьці Яе да самастойнага жыцьця і зрабіць Яе Царквой-Маткай свайго Народу, накіроўваючы яго да высокамаральнага рэлігійнага жыцьця.

Фактам зыходу Сьвятога Духа на Апосталаў і іхняй пропаведзьдзю слова Божага на ўсіх мовах Госпад Бог наш сьцьвердзіў і замацаваў права людзей на сваю родную нацыянальную Царкву.

Свая родная Царква ўважае сваім абавязкам навучаць свой Народ, а не трымаць яго ў цемры, або пашыраць тэндэнцыйныя ідэі.

У 1988 г. мы сьвяткавалі 1000-Годзьдзе Хрысьціянства Русі-Украіны і Беларусі. Гістарычныя абставіны так склаліся, што Масква, перахапіўшы вялікія праваслаўныя традыцыі Кіева, у 1589 г. аб'явіла свой патрыярхат, які пасьля 132 гадоў свайго існаваньня быў скасаваны маскоўскім царом Пятром I, у 1721 г., ды заменены Сьвяцейшым Сынодам. Новы маскоўскі патрыярх быў выбраны толькі пасьля рэвалюцыі ў 1918 г. Маскоўская Царква заўсёды кіравалася палітычнымі інтарэсамі, была на службе маскоўскага імперыялізму і, калі магла, русыфікавала падбітыя народы.

Царква мае вялікі ўплыў у народзе. Яна павінна выхоўваць яго ў веры і нязьменных хрысьціянскіх традыцыях. Каб зрэалізаваць належна сваю ролю асьветніцы народу, яна павінна быць самастойнай. Згодна з традыцыямі, запачаткаванымі сьвятымі Апосталамі на Ўсходзе, кожны народ павінен мець сваю незалежную Царкву.

Будзем маліцца, каб Госпад Бог узмацніў духоўныя і фізычныя сілы Патрыярха, усяе Герархіі, Сьвяшчэнства, Дыяканства, Манаства і вернікаў дзеля далейшага змаганьня з сіламі цемры.

Дай Божа шмат год Патрыярху Мсьціславу I

+ Мітрапаліт Ізяслаў
Мітрапаліт Ізяслаў
Першагерарх Б.А.П.Ц.



На Новагоднім прыняцьці з Лідарам Апазыцыі — Боб Ніксанам

### ГАРБАЧОЎ СПАЧУВАЕ МІЖНАРОДНЫМ БАНДЫТАМ

**У Тунісе унутранымі апазыцыянэрамі ягонай жа тэрарастычнай арганізацыі «Вызваленьня Палестыны /Ярафата/, забітыя ягоныя найбліжэйшыя два намоцнікі. Ад імя Савецкага Ураду Арафату зложана ахвіцыяльнае спачуваньне. Гарбачоў з сваім Урадам ніколі ня склаў ніякіх спачуваньняў ні Армянскаму, ані Азэрбейджанскаму, ані Узбэцкаму, ані Літоўскаму, ані Латыскаму народу, спачуваньні за памардаваных ягонымі апрычнікамі дзесяткаў і сотняў людзей. Затое знайшоў час і патрэбу складсці спачуваньні міжнародным бандытам Арафата.**

### ЗА САЮЗ ЧОРНАМОРСКА — БАЛТЫЙСКАГА САЮЗУ

/З артыкулу З. Пазьняка ў «Народнай Газэце»/

... Салжыніцын падняў з навуковага нябыцьця старое імпэрскае рызьзё гістарычна непаважнае і абразьлівае для Беларусаў Украінцаў. Тэза аб адзінай і недзялімай Расе адмаўляе Беларусам і Украінцам права на незалежнасьць. Думка выказаная А. Салжаніцынымсупадае з становішчам Расейскіх Чорнасоценцаў пачатку веку і ахвіцыяльнай Царскай палітыкай...

... І цяпер пісьменьнік А. Солжэніцын лятуцяе аб новай Расеі з інкарпарацыяй Беларусаў і Украынцаў. Якбы не ясна якая адмена Імпэрыі атрымаецца ад гэтае даўно пахаванай ідэі, дзе нам Беларусам без падтрымкі «іншародцаў» прыгатаваная поўная народная, нацыянальная, духовая, ды і фізычная сьмерць... Я лічу і гаварыў аб гэтым неаднаразова, што якім бы ня быў Савецкі Саюз, пакуль ён існуе, выйсьці з яго паасобнай Распубліцы практычна немагчыма. БНФ прапануе калектыўныя дзеяньні. Нашыя прапановы падтрыманыя Дэмакратычнымі рухамі Латвіі, Літвы, Украіны, Эстоніі... Разглядваючы пытаньне аб утварэньні ў будучыні Балтыйска-Чарнаморскага Саюзу Усходняэўрапейскіх Дзяржаваў: Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі. Гэткае Судруства павінна зьмяніць становішча ў Эўропе і гарантаваць Сувэрынітэт кожнай з 5-ці Распублік... /пераклад з Расейскага/.

### КАМУНІСТЫ НЕ ДАПУСЬЦІЛІ ЗАКОНУ АБ ЎЛАСНАСЬЦІ ЗЯМЛІ ДЛЯ СЯЛЯН!

Падгатаваны Беларускім Народным Фронтам Праэкт Закону аб Сялянскай собскасьці на зямлю, адкінены Камуністычнай бальшынёй Камуністычных гэтак званых «народных Дэпутатаў» Вярхоўнага Савету ў бальшыні як вядама ня выбраных народам, а мянаваных з розных Вэтэранскіх, Інвалідскіх і іншых, залежных ад Камуністаў арганізацыяў, ды прасуненых ў «дэлегаты» партыйных шышак без алтэрнатыўнага галасаваньня ў глухіх вясковых кутках БССР.

У прынятых Камуністычнай зграяй законах не прызнаецца аніякая прыватная ўласнасьць на землю, а толькі «арэнда» яе ад Камуністычнага прыгоннага пана /саўгасы-калгасы/ з далейшым іхным панаваньнем /паншчынай/ над селянінам.

### КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ЦАРКВЫ — МІТРАПАЛІТА ІЗЯСЛАВА ЗЬМЕШЧАНА У САВ.ЧАС.: «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Першы раз на Беларусі зьявілася на балонках «Літаратуры і Мастацтва» «Калядное Пасланьне» Галавы Беларускай Аўтакефальнай Царквы, якая дзее сярод Эміграцыі за мяжой Бацькаўшчыны. Крок «літаратуркі» трэба сардэчна прывітаць!

### СТАРЫ ПРЫГОН НА НОВЫ ЛАД

Пастановай Прэзыдэнта Гарбачова калгасы-саўгасы маюць прымусова здаваць Дзяржаве 60% таварнай прадукцыі і толькі рэшту пусьціць на Вольны Рынак, або выменны гандаль з прадпрыемствамі. Дзяржаўная цана на здаванае збожжа: пшаніца — 500 рублёў за тону /1000 кіля/, жыта — 330 рублёў, грэчка — 950 рублёў.

### БОМБЫ З САМАЛЁТАЎ НАД ЛІТВОЙ

Над гаспадаркай Яніны Вінкевіч ў 45 кілямэтрах ад Вільні выбухла скіненая з вайсковага Савецкага самалёту баевая бомба, якая выбіла ў зямлі яму абхопам ў 20 метраў. Савецкія акупанты вытлумачылі, што бомба зкіненая праз памылку. А чаму лётаў над вёскамі баёвы самалёт з гэтымі буйнымі бомбамі — не выясьнена.

### «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ МОВА»

/«Свабода» — ворган БНФ, Менск/... Беларуская Савецкая Мова — гэта штучнае ўтварэньне, якое ўзьнікла ў 1933 годзе па загаду СНК БССР, калі разстралялі амаль усіх, хто пісаў па Беларуску. Гэта не самастойная мова, а адпаведнік Расейскай, Савецкай мовы, пераклад з Расейскай, Савецкай мовы на Беларускую. Гэта двойчы не самастойная мова. Ёю нельга па людзку гаварыць з дзецьмі, бо нельга з дзецьмі гаварыць моваай партыйных патановаў. Гэта мёртвая мова. Яна сапраўды чэрствая і яе справядліва называюць «ісковерканым русскім языком». Беларуская Савецкая мова — больш Савецкая, Сацыяльная, чым Беларуская, нацыянальная...



БНФ ПЕРАД ДОМАМ УРАДУ Ў МЕНСКУ




У АБАРОНЕ БЕЛАРУСАЎ ПАД ПОЛЬШЧАЙ
ПІКЕТЫ ПЕРАД ПОЛЬСКІМ КАНСУЛЯТАМ Ў МЕНСКУ

## ПАМЯЦІ ПЕСЬНЯРКІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ ПАЭТЫ ЛАРЫСЫ ГЕНЮШ І ЯЕ СЫНА ЮРКІ ГЕНЮША

7 гадоу таму закончыла свае шматгаротнае жыцьцё паэтка — многагадовы палітычны вязень Савецкіх канцлягероў, нязломная Змагарка і Мучаніца за Беларускую справу — Ларыса Генюш. 5 гадоў таму памёр Беларускі пісьменьнік з-пад Польшчы, сын Ларысы — Юрка. Падаём з нашых Літаратурных Архіваў «Баявой Ўскалосі» вязанку здымкаў з перадапошніх дзён Маці і Сына — Песьняроў Беларускай Зямлі — ахвяр Камуністычнага паняволеньня нашай Зямлі.

«Баявая Ўскалось».



Ларыса Генюш у сваім прыхатнім гародчыку ў Зэльве ў апошнія гады.



Юрка Генюш ў Беластоку /1983 г./ Пам. у 1985 г.



Сем'я Паэткі /1966 г./ пры сваёй хаце ў Зэльве на Ваўкавышчыне. Ад лева: др. Янка Генюш, Ларыса Генюш — паэтка, Алік, Юрка /памёрлы паэт/, Міхась, Валя.

Юрка Генюш — Беларускі Пісьменьнік з-пад Польшчы. Па арышце маці Ларысы Генюш і бацькі праз Савецкі «Смерч» у Празе Чэскай, дзе Генюшы жылі пакінутага некалькігадовага хлопчыка ад прымусовага прытулку для «Дзяцей ўратавалі Беларусы, пражываючыя ў Польшчы і Чэхіі. Яны дамагаліся пераданьня Юркі Генюша «цётцы», ПРАЖЫВАЮЧАЙ У Польшчы. Між іншым удзел у гэтым прыняў адзін Камуністычны дзеяч Беларус, паходзіўшы з Вільні, а ў той час — эканаміст у Беластоку. Дзякуючы гэтаму Юрка выжыў, аднак сіроцкі лёс ад'емна падзеяў на Юрку, які з часам стаецца Беларускім пісьменьнікам, але ня можа друкавацца, бо ня годзіцца на выпраўленьні «паводле лініі», як і ягоная маці павярнулася з Савецкай шматгадовай катаргі ў 1956 годзе. Перажыў ён маці толькі на 2 годы.

### З АДОЗВЫ ДА РАКРУЦКАЙ МОЛАДЗІ

... Са страхам праводзяць дзяцей у Савецкую Армію. Гэтая Армія душыла свабоду Венгерскага, Чэскага і Славацкага народаў. Гэтая Армія забівала сапернымі лапаткамі жанчан ў Тбілісі. Гэтая Армія 10 год вяла антынародную вайну ў Аўганістане. Маскве патрэбна такая Армія, а Беларусі? Беларусь аплаціла Маскоўскія авантуры крывёю тысяч сваіх палеглых сыноў. Гэтага аказалася мала, і зараз калі ў далёкіх Рэспубліках палаюць міжнацыянальныя пажары, тушыць іх зноў шлюць нашых хлопцаў. Па ўсіх Рэспубліках пачаўся рух супраць службы ў гэтай Арміі. Маўчыць толькі Беларусь. Маўчыць нашая Бацькаўшчына, якую спаткала страшная бяда Чарнабылю. Маўчыць мірная Беларусь, цела якой утыкана Савецкімі, ядзернымі базамі. Маўчыць і паслухмяна шле эшалон за эшалоном — штогод дзесяткі тысяч — сваіх хлапцоў на сьмерць і калецтва ў далёкія Азіяцкія Рэспублікі... Можа досыць?...



Ларыса Генюш і паэтка Данута Бічэль — Загнетава у магілы Янкі Генюша, сужонка Ларыса. Нясканчоная плынь людзей ў хаўтурнай працэсіі праважае паэтку і мучаніцу на мейсца вечнага спакою.



Апошняе пажагнаньне нябошчыцы Ларысы, Праваслаўным сьвятаром. Сярод іх сын Юрка /высокі/ Беларускі Пісьменьнік з Беластоку /Перажыў маці толькі на 2 гады!/.

### ТЫСЯЧА ДЗЬВЕСЬЦІ ЯЗУІТАЎ НА БЕЛАРУСЬ І

З Ватыкану даходзяць весткі, што Папа Павел Другі, моцна ажывіў дзейнасьць Ордэну Язуітаў, які папярэдня падпаў пад крытыку Ватыкану за свае палітычнае дзейкі ў Паўднёвай Амэрыцы, пахнуўшыя проста камунізмам. Выправіўшы лінію і вызначыўшы новага Гэнэрала Ордэну в асобе Галяндца — Пятра Коленбаха, Папа прыдзяліў шмат увагі абноўленаму Ордэну, як перадавому аддзелу здабыцьця злашча падсавецкага Ўсходу Эўропы, ў тым ліку перадусім — Беларусі. На Ўсход Эўропы прыдзеляна 1200 Язуіцкіх Місыянэраў, з якіх ня мала будзе накіраванае на Беларусь, бо Украіна забязьпечаная аднаўленьнем тысячаў Вуніяцкіх парахвіяў на Галічыне. Яны маюць быць настаўнікамі ў новаадкрытых Духоўных Сэмінарыях /у БССР ў Гародні і праектаваная ў Берасьці/. Яны маюць быць выкладчыкамі ў праектаваных на Беларусі Польскіх Унівэрсытэтах ў Гародні і Берасьці, як і ў існуючым Літоўскім у Вільні.



Над Магілай паэты Юркі Генюша: др. Вэт. Міхась, ягоная жонка, Алік, Валя, жонка паэты Юркі. Уперадзі зьлева Ніна Нікіцін-Сыантовіч — крэўная з Беластоку.





Нескашчоны Хаўтурны паход Паховін Ларысы Генюш. 4 вярсты ад хаты паэткі да Пагосту несьлі труну на руках Беларусы. А былі гэта жыхары ня толькі Зэльвы, але і Гародні і Слоніма і Менску.

## СЬВЯТАЯ ГАРА ГРАБАРКА — МЕЙСЦА ПІЛІГРЫМАК ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ З-ПАД ПОЛЬШЧЫ

### Праваслаўны Фэст на Сьвятой Гары

Крыжы. Соткі Крыжоў, малых і вялікіх. Імі запоўненыя ўсе куты Грабаркі. Гэта Пакутыя Крыжы. Іх нясе кожная група вернікаў. Нясуць дзесяткі і соткі вярстоў. Крыжы-просьбы, Крыжы-пакуты, Крыжы-падзякі. Іх ставяць, укопваюць навакола Цэркаўкі, ў лесе. Малыя прымацоўваюць да аграмадных старых дрэваў.

Старую бо 300 гадовую Царкву на Грабарцы спалілі леташняга году Польскія злачынцы, як спалілі перад тым 7 іншых Праваслаўных Цэркваў на Беласточчыне, абрабавалі іншыя з іконаў, забілі сьвятара

Пры спаленай Польскімі злачынцамі Царквы на сьв. Гары Грабарцы тырчыць абвуглены Пакутны Крыж з Разьпяцьцем.

Пілігрымка на Сьвятую Гару з Беластоку.

Падчас Царкоўнага Фэсту на Грабарцы.

Адпачынак Паломнікаў.

На сьв. Гары знаходзіцца Жаночы Манастыр сьв. Марты і Марыі. Манашкі. Крыжы-пакуты, падзякі, просьбы. Іх соткі ад малых ручных прымацаваных да дрэва да чатырох мэтровых.

### ПАКУТНІЦЫ ПАЎЗУЦЬ НА КАЛЕНЯХ ДА ЦАРКВЫ НА СЬВЯТОЙ ГАРЫ







Праваслаўная грамадзкасьць Беласточчыны і ўсёй Польшчы, бо шмат Беларусоў напрыклад у Гданску, ці на панямецкіх землях, стыхійна адгукнулася на заклік: адбудаваць на сьв. Гары Грабарцы спалёную ворагамі Царкву.

Беларуская эміграцыя не павінна стаяць адстаронь ад гэтае сьвятое і нацыянальнае справы. Браты і сёстры: кіньце і ваш грош на адбудову сымбалю зпрадвечнага існаваньня нашага народу на гэтых старавечных землях нашай Падляшчыны. Высылаць на Жаночы Кляштар сьв. Марты і Марыі:

**17—300 Сямятычны. Ваяводзтва Беласток, Польшча.**

Ахвяры перaказваць на:

**РКО — аддзел Сямятычы 038436—152—001787.**

## Man of the Year


One of the major and leading authorities on the biographies of distinguished individuals worldwide, the American Biographical Institute, USA, does hereby proclaim that. . .

SIARHEY KHMARA

has been selected

Man of the Year

1991

based on his outstanding accomplishments to date and the noble example he has set for his peers and entire community.




Мінск. 20 студзеня 1991 года. Мітынг салідарнасці з народам Літвы на плошчы Леніна





## Кароткі ўспамін

### БЕЛАРУСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ БЮРО Ў БЭРЛІНЕ — 1944-45 гг.

Настырдівыя лісты ад нашых чытачоў з просьбай падаць хоць коратка аб пэрыядзе ратаваньня нашых эміграцыйных пісьменьнікаў і паэтаў падчас вайны змушае нас знайсьці нарэшце мейсца ў газэце для кароткіх даных аб тварэньні свайго роду схоўку-экзылю для іх ў Бэрліне.

**С. ХМАРА**

З Беларусі я выехаў без Нямецкіх пропускаў і дазволаў на сваім возе з жонкай і з арыергардам, складзеным з Узьбекаў — аддзелу Нямецкай Арміі. Пропуску мне адыходзячыя Нямецкія ўлады не далі, хоць забралі з сабой усіх супрацоўнікаў-Беларусаў. Даехаўшы да Беластоку, зрабіў там пры дапамозе Палякаў /за грошы/ хвалшывыя дакументы уцекача /у прозьвічы зьмененая літара «с» на «з»/, падаўся з Пазнаня ўжо цягніком да Бэрліну. Згаласіцца да лягероў уцякачоў баяўся, бо ведаў загоняць да нявольніцкай працы ў іхных хвабрыках ці капальнях. А ведаў, што ўся сьмятанка БЦР падалася цэлым цягніком да Бэрліну, як прызнаны Беларускі Урад на выгнаньні, забязьпечаны Немцамі фінансава. У Бэрліне знайшоў наш Беларускі Клюб, дзеяўшы пад апекай Абрамчыка і Беларускую газэту ўжо пад апекай БЦР з радактарам С. Станкевічам.

Хадзіла аб ўлегалізаваньне майго побыту ў Бэрліне, а значыць атрыманьне харчовых картак і права вынайму памешканьня. Перш зьвярнуўся да Станкевіча, каб пасабіў узяўшы хоцьбы на пасаду уборшчыка. Адмовіў. Ты, маўляў, вораг Астроўскага, а я ў яго на службе! Не ўдаліся захады і ў іншых, бо-ж я з краю быў антыастроўшчык — процій калябаранцтва з Палякамі. Ратаваўся тым, што цэлыя дні валачыліся з жонкай па вуліцах. Падкармлівалі сябры Беларусы, ды што купілася за рэчы на Чорным рынку. Начавалі часам ў паадзінокіх сяброў, што ім пагражала, калі-б выкрылі ўлады: канцлягерам. Ратаваў К. Новік /памёр у Чыкага/, які быў Загадчыкам Клюбу. Ён дазваляў нам пераначоўваць у Клюбе па ягоным закрыцьці нанач. Жонка праз месяц «ўлегалізавалася» ўступіўшы, як чужаземка студыяваць на Бэрлінскі Унівэрсытэт, а я на шчасьце дачакаўся прыезду да Бэрліну К. Езавітана з Латвіі, з якім я праз Варонку ў Чыкага пісьмова быў знаёмы ўжо даўно, а сустрэўся асабіста на 2-ім Беларускім Кангрэсе ў Менску — летам 1944 г. Мы былі: блізкія па ідэалёгіі: ён сябра гістарычнай Грамады, я пазьнейшай Грамады пад Польшчай. Ён уладзіў начавалкі для нас у сваім гатэлі. Немцы з лета 1944 году пачалі больш лібэральную палітыку ў адносінах да Усходніх эміграцыяў. Пачалося ад Расейскага руху гэн. Ўласава. Яны далі ім свайго роду самастойнасьць у гэткіх справах, як свая прэса, культурныя справы. Тое самае прызналі пасьля Украінцам і Беларусам, не кажучы ўжо аб Балтыйскіх народах. У выніку перадалі пад загад БЦР, як Беларускага Ураду і Беларускі аддзел Міністэрства Гебельса, які ўключаў: прапаганду, прэсу і культурныя выданьні, пакінуўшы ў сябе толькі Аддзел Радыёперадач. Але атрымаўшы права на свае Інфармацыйнае Бюро, БЦР аніяк не магла знайсьці ахвочых яго азагалавіць. Справа была ў Яўхіме Кіпелі — сябры БЦР, але зацятым ворагу Астроўскага /ён паходзіў з Сав. Беларусі/. Кіпель ўласьне працаваў ў Беларускім Аддзеле Міністэрства Гебельса, як Кіраўнік Сэкцыі Прапаганды і тым самым мусяў перайсьці ў новастворанае Бюро Інфармацыі пры БЦР. БЦР-аўцы гэтак панічна баяліся Кіпеля, які адкрыта называў іх Польскімі калябарантамі, што адмаўляліся ачоліць БІБ, бо маўляў Кіпель ня дасьць ім працаваць і будзе рабіць даносы да Немцаў, а гэтае пагражае канцэтракам, а мо' і смерцяй. Выкарыстаў гэтае Езавітаў і запрапанаваў на паседжаньні БЦР — мяне. Астроўскі і сябры супрацівіліся, але счакаўшы і не знайшоўшы больш ахвочых, Астроўскі згадзіўся на маю кандыдатуру, каб нарэшце Бюро ўрухоміць. Падлягаў я намінальна Кіраўніку Аддзелу Культуры БЦР — Яўгену Каханоўскаму /Калубовічу/, але фактычна быў самастойны. Ад Міністэрства Гебельса пераняўлі працоўных там Беларусаў як перакладчыкі і машыністкі /Радыё не перадалі/ лікам нешта 12 асоб/. Між іншым: Бакач, Анішчык, Жукоўская, Якубоўская, Вольха/. Дзеля сувязі з Нямецкімі ўладамі рэзыдаваў у нас Нямецкі ўрадовец Сувязі /Астзэйскі Немец/, які ў нашую працу не ўмешваўся і абмяжоўваўся да перадачы нам Нямецкіх ахвіцыяльных матэрыялаў дзеля перакладаў на Беларускую мову, ды залатвяў грашовыя справы.

Кіпель застаўся ў нас Кіраўніком Аддзелу Прапаганды і кіраваў пасыланьнем Прапагандыстаў у лягеры работнікаў, гэта яго задавальняла і ў нашыя іншыя справы ня ўмешваўся, жывучы са мною карэктна. Ад Уласаўцаў і Украінцаў я даведаўся, што Немцы «памягчэлі» і згаджаюцца на павялічэньні складаў Бюраў новымі людзьмі. Вось тады і паўстала мая думка зрабіць нашае Бюро гэтак сказаць «азыльлям» — прытулкам для ратаваньня з работніцкіх лягероў нашых пісьменьнікаў і паэтаў. Калубоўскі маю ідэю падтрымаў і пачаў пасылаць да нас ўсіх аб'явіўшыхся і знойдзеных пісьменьнікаў. Так прыйшоў да нас: Ліманоўскі, Рамаyоўскі, Цэлеш, Случчанін, Лябада, Сяднеў, Вірок, Сумны /сьвятар/, Клішэвіч, Камароўскі, Луновіч, Няміга. Мы патварылі розныя «радакцыі»: Літаратурнага часапісу «Ўскалось» /набор альманаху згарэў падчас бамбардаваньня Лейпцыгу/, Дзіцячай Літаратуры, Прэсавай /Весткі БІБ — выйшла пару нумароў/, Палітычнай Літаратуры /выйшлі Прамовы Астроўскага, Шкялёнка, гэн. Езавітава на Другім Кангрэсе/ і іншае. Рэшту людзей зьмяшчалі як «прапагандыстаў» у аддзеле Кіпеля. Зьвярнулася да мяне і жонка Беларускага падсавецкага пісьменьніка Глебкі, якая аказваецца была працаўніцай Беларускай Сэкцыі Радыя Гэбельскага міністэрства і была адтуль выкінена, бо адмовілася жыць з кіраўніком Сэкцыі некай Беларускай поскудзяй /пасьля пражываў у Англіі/. Я зарызыкаваў выратаваць жанчыну. Таму што мы дамагаліся /праз БЦР/ адданьня Радыяперадач нам, рашыў напралом арганізаваць свой Радыёаддзел і вызначыць яе кіраўніком Глебчыху. Паразумеўся з Каханоўскім. Ён пагадзіўся, але на маю поўную адказнасьць і лічыў, што гэта вельмі рызыкоўна. Калі я ахвіцыяльна паведаміў праз свайго Нямецкага Ўрадоўца Лучнасьці аб прыняцьці на працу Глебчыхі, той падняў гвалт. Ён запатрабаваў яе звальненьня, бо яна маўляў западазронная ў супрацы з Саветамі /маўляў перадавала, як анонсарка, ўмоўныя словы па Радыю Саветам і г.п./. Я зволніць яе адмовіўся, бо паводле маіх вестак — гэта помста Кіраўніка Гэбельскага Аддзелу Радыя за адмовы Глебчыхі сужыцьця з ім. Пасьля пару дзён спрэчак справа заціхла і Глебчыха засталася нашым штатным працаўніком і атрымала грошы. Хоч радыя мы не атрымалі, але Аддзел Радыяперадач заіснаваў! Гэта была мая, як акрэсьліў Каханоўскі, найрызыкоўнейшая спрэчка з Немцамі. Нашае Бюро такім чынам сталася якбы ратунковым азылям для нашых пісьменьнікаў, якіх мы аднаходзілі ў розных лягерах і мяйсцох Нямеччыны. Аднак і тут знайшоўся незадаволены. Гэта быў М. Сяднёў, які прыбіўся да нас пазьней і таму быў накіраваны ў групу «прапагандыстаў», а яму праглася становішча радактара, бо лічыў сябе, што ён вынятак і гэні. Тут мы зачалі сваю нелегальную Грамадаўскую арганізацыю пад крыптанімам «Двупагоні», ды прыдумалі ахвішавацца гэтым знакам, як эмблемай БІБ. Аднак прышлося доўга дабівацца згоды Каханоўскага, г. зн. БЦР, на гэтае, бо ён уважаў, што мусім на сваіх выданьнях ставіць «Пагоню», як дзяржаўны гэрб. Мы запярэчвалі, бо БІБ ня быў «дзяржаўнай» установай, як лічылася БЦР, а толькі ёй падлягаючай. Такім чынам «Двупагоня» зьявілася на нашых выданьнях.

Маючы праз «прапагандыстаў» сувязі з усімі работніцкімі і юнацкімі лягерамі, мы закладалі там нашую арганізацыю ў хворме «постаняў» з аднаго да трох сяброў, злашча ўва ўсіх лягерах Беларускай Моладзі, якія былі пад апекай Ганька «фюрараў» і Бараноўскага. у пачатку 1945 году зарганізавалі мы падачу Мэмарыялу да Астроўскага з дамаганьнемператварыць БЦР з мянаванцаў Немцаў, на прадстаўнікоў усіх існуючых Беларускіх арганізацыяў да вайны, як Грамада, Хрысьціянская Дэмакратыя, Сялянскі Саюз, ТБШ, Інбелькульт і інш., ды ўтварыць Урад на выгнаньні. /БЦР мела паасобныя аддзелы, а не «Кабінет Міністраў»/. Астроўскі прыляцеў з поўдня ў Бэрлін і разам з Віцэпрэзыдэнтам БЦР — Шкялёнкам спаткаўся зы мною і гэн. Езавітавым. Выслухаўшы нашыя довады, дараўчыў далейшае Шкялёнку. Было дамоўлена часова стварыць Урад /БЦР/ з 6-ці асоб — тры ад нас і тры ад БЦР. Нашым меў быць Старшыня Ураду У. Тамашчык /пасьлейшы Архіяпіскап БАПЦ/, ён не належаў да «Двупагоні», але сьціслa супрацоўнічаў з намі /гэн. Езавітаў як Міністар Вайсковых Справаў/ таксама сьціслa супрацоўнічаўшы з намі/, і я, як кіраўнік Культурных Справаў, Прэсы і Сувязі. Ад БЦР: Шкялёнак — Замежныя Зносіны, Бяленіс — Справы Самапомачы—Самаўправы. Трэцім Шкялёнак дамагаўся вызначыць рад. Стася Станкевіча, як «Міністра Прэсы». з чаго вынікла гарачая спрэчка. Шкялёнак паставіў ультыматум ад імя Астроўскага, што калі мы не пагодзімся на Станкевіча, дык перамовы будуць сарваныя. Прышлося пагадзіцца. Сам Станкевіч ўжо быў уцёк з Бэрліну і Хведар Ільляшэвіч, ягоны заступнік прыбег да нас са спалохам, што рабіць: уцёк, не паведаміўшы нікога — Радактар. Так мы перанялі «Раніцу».

На першай старонцы мы зьмясьцілі Камунікат аб стварэньні Беларускага Ураду з вылічэньнем асоб, якія ўвайшлі ў ягоны склад. Вестка была сканфіскавана Нямецкай Ваеннай цанзурай і засталося толькі пустое мейсца. /У другім нумары ўсё-ж малую зацемку ўдалося прасунуць/.

На першай старонцы мы зьмясьцілі Камунікат аб стварэньні Беларускага Ураду з вылічэньнем асоб, якія ўвайшлі ў ягоны склад. Вестка была сканфіскавана Нямецкай Ваеннай цанзурай і засталося толькі пустое мейсца. /У другім нумары ўсё-ж малую зацемку ўдалося прасунуць/.

Калі Дэлегацыя з Тамашчыка і Ільляшэвіча зьявілася да Ўсходняго Міністэрства з паведамленьнем, што створана Урад БЦР, ведаючы Беларускімі Справамі ўрадовец кінуў: ніякіх Беларускіх Урадаў не прызнаем, а нашая БЦР сядзіць на Поўдні. Такім чынам скончылася справа нашага ўсамадзельненьня. Варта ўспомніць, што я ад імя «Двупагоні» быў запрошаны на апошнюю нараду нашых вайскоўцаў і іхняй «Незалежніцкай партыі». Нарадай кіраваў фактычны іхны Правадыр — маёр Беларускай Краёвай Абароны — Родзька. Я быў адзіны «цывільны» ад палітычнай групоўкі, калі ня лічыць Ганька — Правадыра Саюзу Беларускае Моладзі, які выступіў на нарадзе з пакаяньнем, што вінаваты, бо занадта верыў Гітляроўцам і хоча адкупіць сваю віну перад народам, далучыўшыся да нашых антысавецкіх партызанаў /што і зрабіў/. На нарадзе пастаноўлена зьмяніць на прапанову маёра Родзькі назоў «Незалежніцкай Партыі» на «Беларускую Вайсковую Арганізацыю», на ўзор гэткайжа Польскай, дзеля дзеяньня на Беларусі. Маючы як госьць дарадчы голас, я ад імя «Двупагоні» выступіў процій кіданьня маладых хлапцоў на Беларусь з Нямеччыны для партызанкі, бо яна безсэнсная, калі ня будзе ў хуткім часе вайны з Саветамі. А паводле нас вайны гэткай ў бліжэйшыя 5-6 год няма што чакаць. Вайскоўцы заглядаліся інача́й, але прынялі да ўвагі нашую засьцярогу і пастанавілі, калі ня выбухне вайна, парты-анку па 5-ці гадох — зьліквідаваць, калі яна яшчэ будзе існаваць. Я ад імя «Двупагоні» цьвердзіў, што лепш захаваць нашыя маладыя кадры па вайне ў Эўропе, што прынясе Беларусі больш карысьці ў прышласьці для яе вызваленьня, чым пасылаць у лес.

Вяртаючыся да залажэньня Беларускага Інфармацыйнага Бюра, варта ўспомніць аб былым пастары Мэтадыстаў — Пятроўскім. Восьжа перамаючы ад Міністэрства Гэбельса — Беларускі Аддзел з усімі ягонымі працаўнікамі, я катэгарычна адмовіўся прыняць да сябе і былога Начальніка Беларускага Аддзелу ў тым Міністэрстве — былога Беларускага Пастара, адгуляўшага досыць паганую ролю на гэтым становішчы. Я ведаў, што прыняўшы яго буду мець ў Бюро ахвіцыяльнага Гітляроўскага агента, бо ён падаўся як «фолькcдойч» — Немец з паходжаньня і быў слынны як Нямецкі прыслужнік. Як вядома, мэтадызм прыцягнулі на Зах. Беларусь нашыя нацыянальныя дзеячы, каб зрабіць нацыянальнай верай, спадзяючыся на вялікую матэрыяльную дапамогу гэтай Царквы на Беларускія нацыянальныя мэты. У Мэтадыстычную акцыю ўлучыўся: Антон Луцкевіч, санатар Ўласаў, М. Бурсэвіч і Гальляш Лейчык. Гэты апошні пераклаў на Беларускую мову больш 100 Мэтадысцкіх рэлігійных песьняў. Перакладзена па Беларуску Богаслужбу. Адчынена Мэтадыстычныя парахвіі.

У аднэй з гэтых парахвіяў /здаецца ў Дзярэччыне/ аб'явіўся пастарам Пятроўскі, які ў адрозьненьне ад ініцыятыўнае групкі не допускаў у сваёй парахвіі ніякіх нацыянальных праяваў паза сьціслa рэлігійных. Зьняверыўшыся часам ў магчымасьцях Мэтадызму ў спалуцы ў Беларускім патрыятызмам — Ініцыятары яго пакінулі на чале з Гальляшом Лейчыкам. Засталася толькі парахвія Пятроўскага.

Па вайне Пятроўскі апынуўся ў Амэрыцы. Спрабаваў закласьці Мэтадыстычную парахвію, але іншыя Беларускія Прапаведнікі з ім не змаглі сужыць. Тады пакінуў пастарства і асяліўшыся на Флярыдзе заклаўшы сваю сямейную Беларускую Асьветную Фундацыю, ды заняўся перакладам па Беларуску Грэцкіх філёзафаў і іх выданьнем.

